## Анатоль Сідарэвіч:

# «Нельга быць аднаачасова стопрацэнтовым лібэралам і сацыял-дэмакратам»

***«НН»: Вы — адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў сучаснай беларускай сацыял-дэмакратыі. Як Вы думаеце, ці адбылася нейкая эвалюцыя сацыял-дэмакратыі з 1990 да 1996 году?***

А.С.: Дзесьці я прачытаў, што не мяняюцца толькі неразумныя людзі. Мяняюцца жыцьцё, абставіны і рамкі палітычнай дзейнасьці — мусіць нешта мяняцца і ў дактрыне, і ў практыцы пэўнай палітычнай арганізацыі.

У 1990 годзе людзей, якія нешта ведалі пра сацыял-дэмакратыю, была жменька. У Грамаду йшлі пераважна людзі, якія чагосьці не прымалі ў мэтадах БНФ, былі незадаволеныя ўнутранымі парадкамі ў БНФ, але гэта былі пераважна людзі, якія мелі цьмяныя ўяўленьні пра сацыял-дэмакратыю. Яны бачылі Грамаду як мякчэйшы паводле нутранога рэжыму аналяг Фронту. Зянон Пазьняк неаднаразова заяўляў, што Грамаду стварыў БНФ. І ён меў рацыю. У Грамаду прыйшлі і людзі, дэлегаваныя кіраўніцтвам Фронту.

Гэтымі акалічнасьцямі тлумачыцца тое, што ў сацыял-дэмакратычнай нішы да ліпеня 1995 году тапталіся пяць партый: апроч Грамады, яшчэ Беларуская партыя працы (БПП), Беларуская партыя жанчын «Надзея», Партыя народнай згоды (ПНЗ), Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды (ПУАЗ). Летась быў створаны блёк «Сацыял-дэмакратычны саюз» (СДС). Сёньня ў яго не ўваходзіць толькі Партыя «Надзея». (Асобны сюжэт —Аграрная партыя, якая таксама нібыта вызнае дактрыну дэмакратычнага сацыялізму).

Мянялася жыцьцё, мяняліся абставіны і рамкі дзейнасьці —мянялася і Грамада. Яна лявела, ператваралася ў сацыял-дэмакратычную партыю ня толькі паводле назвы, але й сутнасьці.

***«НН»: Ці гэтае паляненьне зьвязана з тым, што на чале Грамады стаў Мікола Статкевіч?***

А.С.: Я ўжо казаў, што ў Грамадзе была жменька людзей, якая ведала, што такое сацыял-дэмакратыя і чым яна павінна займацца. Пры Статкевічы Грамада заключыла пагадненьні аб супрацоўніцтве зь Беларускім незалежным прафсаюзам, на чале якога стаіць сацыял-дэмакрат Віктар Бабаед, пагадненьне аб супрацоўніцтве з БПП, лідэрамі якое зьяўляюцца кіраўнікі прафсаюзаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудаваньня Аляксандар Бухвостаў і радыёэлектронікі Генадзь Фядыніч. Разам з ПНЗ, ПУАЗ і БПП Грамада стала ўдзельніцаю СДС. Вы думаеце, што гэтыя пагадненьні — нешта зусім новае? Не. Я добра памятаю, як першы старшыня БСДГ Міхась Ткачоў вёў перамовы і з Бухвостовым, і з Фядынічам, і з Ганчарыкам. Калі пагартаць падшыўку «Згоды» за 1992 год, дык можна знайсьці тэкст дагавору аб супрацоўніцтве паміж БСДГ і ПНЗ. На жаль, гэты дагавор ня быў падпісаны, а потым спыніліся кантакты з прафсаюзнымі лідарамі.

***«НН»: Была нейкая прычына...***

А.С.: Прычынаў было, мусіць, дзьве. Ведаеце, у палітыкаў мясцовай гадоўлі самы хадавы аргумэнт — «да чалавека». Дык вось, дамова аб супрацоўніцтве з ПНЗ у 1992 годзе не была падпісаная таму, што сябрам гэтае партыі зьяўляўся Мікола Шэляговіч. Усчаўся лямант: здрада, ганьба!.. Летась гэты аргумэнт выкарыстоўвалі супраць ідэі СДС. Усё ўпіралася ў асобу Дзьмітрыя Булахава. Ну, а сёлета ТЫЯ САМЫЯ ЛЮДЗІ страшаць ужо Нісьцюком ды некаторымі іншымі сябрамі ПНЗ.

Другая прычына — сьмерць Міхася Ткачова. Ён быў сацыял-дэмакратам і ведаў, што павінна рабіць сацыял-дэмакратычная партыя.

Асабіста я лічу, што са сьнежня 1992 да ліпеня 1995 году БСДГ не разьвівалася як сацыял-дэмакратычная партыя. Гэта быў час страчаных магчымасьцяў.



Фота Анатоля Клешчука

***«НН»: Як я разумею, усё залежала ад таго, хто зьяўляецца лідарам партыі?***

А.С.: Часткова не, часткова так.

Чаму часткова не? Проста, Грамадзе спатрэбіўся палітычны, гістарычны вопыт, каб пераканацца ў слушнасьці курсу, узятага Міхасём Ткачовым.

Чаму часткова так? У вашым тыднёвіку за 24 чэрвеня былы лідар Грамады заявіў: «Пакуль рынку няма, мы павінны быць стопрацэнтовымі лібэраламі». У гэтым сутнасьць усяго інтэрвію. Усё астатняе — «от лукаваго». Я ня ўпэўнены, ці чытаў экс-лідар калі-небудзь Бэрнштайна, Каўцкага, Ота Бауэра... Сто гадоў таму Бэрнштайн напісаў, што няма такога прынцыпу лібэралізму, які нельга ўключыць ў сацыялістычную праграму. Але нельга быць аднаачасова стопрацэнтовым лібэралам і сацыял-дэмакратам. Нават тыя лібэралы, якія бралі дзеля заспакаеньня народу сёе-тое з сацыялістычнай праграмы, аніяк не прэтэндавалі на званьне сацыял-дэмакратаў. Прыкладам, Рузвэльт і Джонсан зь іхнімі «новым курсам» ды «вайною зь беднасьцю». Яны былі нэалібэраламі, сацыял-лібэраламі, але не сацыял-дэмакратамі.

Сваім выказваньнем спадар Трусаў прылюдна засьведчыў, што ён не сацыял-дэмакрат. Дарма ён спасылаецца на прыклад айцоў БНР. Дастаткова прачытаць праграму ўраду Антона Луцкевіча, дзе запісана: «падгатоўка і правядзеньне работніцкага правадаўства у мысьль соц.-дэм. праграмы».

Так, рынку няма, але ёсьць «рынкавы сацыялізм» і ёсьць сацыяльная несправядлівасьць. Супраць несправядлівасьці трэба змагацца, кажучы словамі Луцкевіча, «у мысьль соц.-дэм. праграмы».

Будзьце ўпэўненыя, маса наёмных работнікаў (у тым ліку людзей разумовай працы) за лібэраламі і БНФ ня пойдзе. Аднаачасова ў значнай часткі наёмных работнікаў ёсьць недавер і да камуністаў. І сацыял-дэмакратыі трэба заняць іхняе месца. Павінна адбыцца злучэньне дэмакратычнага сацыялізму з рабочым рухам. Пакуль у сацыял-дэмакратычнай партыі няма як мінімум трыццаці працэнтаў людзей ад станка, яе цяжка называць партыяй сацыяльнае дэмакратыі. Вось у чым задача беларускіх сацыял-дэмакратаў. Мусіць, гэта спрабуюць назваць нэакамунізмам. Францух Мітэран, выцясняючы камуністаў на пэрыфэрыю рабочага руху, называў такую палітыку левым антыкамунізмам. Ніхто не западозрыць яго ў камунізме, але ён не саромеўся сьпяваць «Інтэрнацыянал» і карыстацца ў гутарках зь сябрамі Сацыялістычнай партыі зваротам «таварыш».

***«НН»: Вы лічыце, што ў Грамадзе адбываецца барацьба ідэй, а не людзей і амбіцый?***

А.С.: Носьбітамі ідэй зьяўляюцца людзі. Ідэі высьпяваюць у іх галовах. У адных была і ёсьць ідэя: «няхай партыя называецца сацыял-дэмакратычнаю, мае сацыял-дэмакратычную праграму, але будзе лібэральнаю». У кагосьці ёсьць іншая ідэя: «практычная дзейнасьць партыі павінна адпавядаць яе назьве і праграме». Заўважце: хоць спадар Трусаў да інтэрвію ў вашым тыднёвіку нідзе не выказваў сваю ідэю публічна, палітолягі і журналісты яшчэ ў чэрвені мінулага году адносілі Грамаду да правых партый. Назва партыі не магла іх падмануць, бо дзейнасьць Грамады не адпавядала азначэньню «сацыял-дэмакратычная». Цяпер Грамаду адносяць, як правіла, да левых партый.

Што да амбіцый. Мне помніцца, што першы з трывогаю і публічна загаварыў аб страце кантактаў з прафсаюзным рухам Міхась Чарняўскі — чалавек, цалкам пазбаўлены амбіцый. Ягоны ліст у «Навінах Грамады» меў загаловак «Тварам да дэмакратычнага сацыялізму».

І яшчэ адзін факт. Мала каму вядома, але 20 чэрвеня 1995 году, калі старшынёю Грамады быў яшчэ спадар Трусаў, Выканкам БСДГ прыняў пастанову пра тое, што партыя выказвае гатоўнасьць пасылаць сваіх прадстаўнікоў у аргкамітэт для стварэньня аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі. Пастанова прынятая аднагалосна. Невядома, як разгортваліся б падзеі далей, аднак праз дзесяць дзён быў абраны новы старшыня Грамады.

***«НН»: Як вы можаце патлумачыць той факт, што «пачырванелая» Грамада абрала сваім лідарам Міколу Статкевіча? У яго ж была рэпутацыя правага.***

А.С.: «... у свой час быў больш правы, чым Пазьняк». Так напісана ў вашай газэце.

Усе няісьцінныя выказваньні — часцей за ўсё ад няведаньня фактычнага стану рэчаў. Хто калі пытаў у Статкевіча пра яго сацыяльныя погляды? Мы, таварышы па партыі, ведалі іх. І таму пасьля сьмерці Міхася Ткачова прапанавалі Міколу балатавацца на пасаду старшыні БСДГ. Аднак ён чамусьці ўхіліўся ад змаганьня. Іншыя «левыя» на пасаду старшыні не маглі прэтэндаваць. У траўні мінулага году Мікола ўжо не адпрэчваў прапановы. Першага ліпеня на зьезьдзе ён ясна выклаў сваю праграму: Грамада павінна быць сацыял-дэмакратычнаю партыяй паводле сутнасьці, павінна йсьці на збліжэньне з партыямі, якія выказваюць прыхільнасьць да дактрыны дэмакратычнага сацыялізму, наладзіць супрацоўніцтва з прафсаюзамі. Назаўтра ж пасьля абраньня ён ужо размаўляў зь лідарамі прафсаюзаў і іншых партый. 25 ліпеня быў створаны СДС.

Адбылася сустрэча і з прадстаўнікамі СДПГ. Пятро Краўчанка на гэтай сустрэчы заявіў, што БСДГ хоча стаць нармальнаю, «клясычнаю» сацыял-дэмакратычнаю партыяй.

Адмовіцца ад гэтага курсу азначала б выставіць Грамаду на пасьмешышча. Я нагадаю, што Грамада не адзін раз адмаўлялася ад сваіх намераў. У 1992 годзе яна адмовілася ад ідэі блёку «Новая Беларусь» і ад супрацоўніцтва з ПНЗ (усё ўперлася ў асобу Шэляговіча). У 1994 годзе адбылося самае ганебнае, што ўжо ўпісана ў палітычную гісторыю Беларусі чорным радком: грамадоўскія дэпутаты адклікалі свае подпісы на карысьць Генадзя Карпенкі, і ён ня стаў кандыдатам на пасаду прэзыдэнта. Наогул, гэта была дзіўная палітыка: партыя падтрымлівала кандыдатуру Шушкевіча, дэпутаты падпісваліся на карысьць Карпенкі, потым подпісы адклікалі... Рыхтык як цяпер: будзем стопрацэнтовымі лібэраламі, але назавемся сацыял-дэмакратамі...

***«НН»: Будзем лічыць, што БСДП створана. У друку мала было падрабязнасьцяў пра сам зьезд.***

А.С.: Прысутнічала, калі не памыляюся, 115 дэлегатаў. Зь іх 90 прагаласавалі за аб'яднаньне. Дэлегаты падзяліліся на тры групы: адны «за», другія «за», але з пэўнай умовай, трэція — «супраць».

***«НН»: Што за ўмовы былі?***

А.С.: Датычныя пэўных пунктаў дамовы аб стварэньні адзінае партыі і яе Статута, а таксама магчымага старшыні партыі. У канчатковым варыянце дамовы ўлічаны, бадай, усе пажаданьні Грамады, у тым ліку і пра партыйную сымболіку. Запісана так: «Сымболіку новай партыі разгледзіць яе ІІ зьезд з улікам нацыянальна-гістарычных традыцый».

***«НН»: А каго прапаноўвалі абраць старшынёю аб'яднанае партыі?***

А.С.: Нізавошта не здагадаецеся. Былога міністра ўнутраных справаў і былога старшыню КГБ Уладзіміра Ягорава. А ён жа ні сябрам Грамады, ні сябрам ПНЗ ня быў, і нават у сацыял-дэмакратычную фракцыю «Саюз працы» не ўвайшоў. Калі не памыляюся, ён у «Згодзе». Дарэчы, ПНЗ і без аб'яднаньня з Грамадою памяняла б сваю назву на БСДП пасьля таго, як зьявілася гэтая «Згода». Магла б узьнікнуць пікантная сытуацыя: дзве партыі — Грамада і ПНЗ — маюць ідэнтычныя праграмы, але розныя назвы...

***«НН»: Колькі галасоў набраў Статкевіч?***

А.С.: Больш за восемдзесят. Дарэчы, іншага прозьвішча, акрамя ягонага, у бюлетэнях не было.

***«НН»: Уявім, што партыя будзе зарэгістраваная. Што далей?***

А.С.: Думаю, што гэтым аб'яднаньнем працэс кансалідацыі дэмасацыялістычных арганізацыяў ня скончыцца. Мяркую, што да СДС далучыцца «Надзея». Ня выключана, што праз пэўны час будзе новы аб'яднаўчы зьезд, бо ёсьць пэўныя сыгналы ад Партыі працы. Дый Булахаў заявіў, што ПУАЗ будзе даганяць Грамаду й ПНЗ.

***«НН»: Вы аптыміст?***

А.С.: Мой аптымізм заўсёды асьцярожны. Я перакананы, што Беларусі патрэбныя як моцная лібэральная, як моцная нацыянальна-дэмакратычная, гэтак і моцная сацыял-дэмакратычная партыя, у якую пойдуць людзі ад варштата. Калі мы ня створым такую партыю, яе пастараюцца стварыць іншыя. Ужо ёсьць сыгналы, што кіраўнікі КПРФ гатовыя памяняць назву сваёй партыі. Хто гарантаваў, што іхнія малодшыя браты ў Беларусі ня возьмуць зь іх прыклад? Ёсьць сыгналы і пра тое, што сацыял-дэмакратычную партыю хочуць стварыць былыя дзеячы КПБ, якія цяпер пакуль што беспартыйныя. Такім чынам, самі абставіны прымушаюць прыхільнікаў сацыяльнай дэмакратыі бараніць гэтую палітычную нішу, гуртавацца.

**Гутарыў Алесь Ванькові̇ч.**



Славамір
Адамовіч

### Пэдэль

Пэдэль ходзіць за дзьвярыма,
пэдэль ведае дакладна, як
патрэбна службу правіць
у любых умовах часу, у пару
тэрору, гвалту, летам, восень-
ню, зімою... Пэдэль мае
палку з гумы, не турбуюць
яго думы. Пэдэль, наш

любімы пэдэль, безь цябе мы
анікуды. Дай нам, пэдэль,
каб нам ведаць, як хадзіць,
глядзець куды, як пазьбегнуць
нам бяды. У цябе пруток
гумовы, у цябе густыя
бровы. Пэдэль – гэта проста
цуд. Пэдэль – цаца. Пэдэль
– гут! Пэдэль слухае
маўкліва. Пэдэль – млын.
А мы ёсьць мліва?

*29.04.96*
*9-я камэра СИЗО КГБ*

### Чыстае

Яно жыве на паверхні,
на плоскасьцях каардынат,
на ніжняй вусьне, на верхняй,
пад сэрцам у нашых дзяўчат.

Іскрыцца яно ў зялёным
і ў жоўтым на сонцы блішчыць,
зрываецца кропляй з клёнаў,
у душах зьлёгку шчыміць.

Яно жыве ў пацалунках
крывіцкіх жанчын і мужоў,
у сьветлых дзіцячых малюнках
і там, дзе сьляды вужоў.

Жыве яно ў самым-самым,
на вейках нашых дрыжыць,
сьвіціцца ў квадраце рамы
і на сталёвым нажы.

Яно жыве на сьвітаньні,
і днём, і калі паўзмрок,
і там, дзе нашы спатканьні,
і скрозь, дзе чуваць наш крок.

*19.05.96*
*9-я камэра СИЗО КГБ*

### Вітальныя галюцынацыі на выхадзе з галадоўкі

Незагарнае лета. Холадна.
Час ад часу дажджы ідуць.
Нехта ў госьці паклікаў Воланда,
па кілішках разьліўшы ртуць.

Пахне порахам, хвой і яблыкам,
стаў на вахту падводны флот...
Сьніцца мне то чырвоная фабрыка,
то вільготны жаночы рот.

Хтосьці думае сёньня засіліцца,
хтосьці вену мастырыць лязом,
ну а я, як хацеў бы я ўзмыліцца
на піковай даме тузом.

Мэта блізка. Надзея большае.
Я мачаю вусны ў глюканат.
Хутка выйду я, новы і колішні.
Ты чакаеш, «старэйшы брат»?

Незагарнае лета. Холадна.
Час ад часу дажджы ідуць.
Господа в ожидании Воланда
что-то очень мерзкое пьют.

*25.06.96*
*Рэанімацыя*

Апавяданьне

# У фіялетавай

— Следующий!

Сакратарка ківае і я ўваходжу ў кабінэт. За доўгім сталом —трынаццаць крэслаў. Мяне запрашаюць сесьці ў тарцы.

— Пожалуйста.

Я спрабую ўстаць і назвацца. Горла сьціскае спазм, і на імгненьне я забываюся на сваё імя і аддаюся радасьці прывіднага збавеньня, пра якое марыць у дзяцінстве: няхай бы землятрус разбурыў школу, добра б цяжка-цяжка захварэць, вось каб у будынак зараз урэзаўся самалёт... Грымучая цішыня наплывае з усіх бакоў, і толькі барвовыя блікі на паліраванай паверхні стала аддзяляюць ад поўнага правалу ў фіялетавую чарнату.

Варанёны мэтал калідора. Крутыя і гладкія, адпаліраваныя мільёнамі бакі бясконцай варонкі, дзе магчымы толькі адзін накірунак. Я спрабую спыніцца: неадчувальная дагэтуль плынь раптам кідае мяне бокам, разварочвае, малоціць па руках і нагах і валачэ за сабой. Я ўпіраюся як магу, спрабую зачапіцца. Марна. Амаль марна.

З шоргатам, трэскам паветра ўспорваюць вялізарныя крылы, мяне кідае ўверх і ўбок. Вясёлым пункцірам успыхваюць трасэры. Ахова б'е з кароткаствольных АКМаў: міма, міма, міма. Крылатая істота не дакранаецца да мяне, але мае цела дакладна, быццам цень, паўтарае ўсе яе манэўры.

— Хто ты?

— Архангел ..ев! Давай гранатометом, быстрей, пока высоту не набрал, шевелись, тваю мать! — нясецца рэзкі крык зьнізу.

— Архангел? Я памёр? Ёсьць анёлы?

— Дай руку, — істота прыцягвае мяне да сябе і мы раптоўна зігзагам мяняем курс. Рэактыўная граната са сьвістам праносіцца міма.



— З РПГ-18, асколачна-кумуляцыйнай спрабавалі, — чуецца спакойны голас побач.

— Хто ты?

— Увага — ніжэй!

Мы быццам правальваемся ў яму і амаль чапляем тралейбусныя драты. Над намі фыркае воблачка газу. Недзе на іншым баку праспэкта лопаецца ваконная рама і шкло выплёскваецца ў паветра і на ходнік.

— Зараз выйдзем з зоны агню. Праз мэтраў 800 гранатамёт не дастане. Было б лепш трымацца вышэй, але хто ведае, што ў іх на дахах. Мяняюць пазыцыі штодня, падцягваюць тэхніку.

— Вот они, падлы! Бей веером!

Мы ледзь пасьпяваем завярнуць за эркер на ўзроўні трэцяга паверху. Сталінская архітэктурная клясыка крышыцца, але ад лёгкай стралковай зброі прыкрывае досыць надзейна.

— Сколько раз вдалбливали: прицел ставить на бесконечность! Неважно, что с виду до них пятьдесят метров: ставь на бесконечность, режим автоматический, патронов не жалеть. Все поняли?..

Сіпаты голас працягвае інструктаж недзе зусім побач. Я асьцярожна выглядаю з-за паўкруглага вугла. За газэтным шапікам трое ў камуфляжнай форме і нейкіх цёмных люстраных акулярах, побач армейскі джып. Старэйшы з бляклымі зоркамі на пагонах раптам нешта заўважае і рыўком разрывае гімнасьцёрку на маладзенькім цыбатым хлопцы. У кулаку камандзіра заціснуты ланцужок, на ім гойдаецца цыновы крыжык. Вусны камандзіра перакошвае агіда і ён без размаху, рэзка б'е дэсантным чаравікам бяляваму паміж ног. Са стогнам ды ўсхліпам той пераломваецца і асядае на зямлю.

— Тут нельга заставацца. Напэўна папярэджаныя ўсе пасты і цябе пільнуюць.

— Хто ты?

— Не падабаецца мне тая машына...

Пасярэдзіне праспэкту нясьпешна рухаецца крыты брызэнтам фургон. На вузкім карнізе няма дзе хавацца, але мы яшчэ шчыльней ўціскаемся ў сьцяну, амаль зьліўшыся са сьцёкавай трубой. Машына ўжо мінула нас і ззаду відаць сфэрычную антэну, якая ляніва паварочваецца вакол сваёй восі.

— Уніз па трубе! Ляцець нельга, давай сам, хутчэй!

Я чапляюся за халодную гладкую трубу і сасклізваю з карнізу. Штыры, якія мацуюць яе да цаглянай муроўкі, выходзяць з пазоў, сыплецца пясок. Недзе паміж другім і першым паверхамі я адчуваю, што сьпіна пайшла наперад, разам з кавалкам трубы аддзяляюся ад сьцяны і з грукатам лячу на асфальт. Рука дапамагае мне падняцца і падштурхоўвае — бяжым! Ускокваем у двор Політэхнічнага інстытуту. Машына працягвае рух — лякатар відавочна не зафіксаваў нічога падазронага. Нас выдаў грукат: ад Акадэміі навук праз праспэкт ужо бягуць двое ў акулярах і камуфляжнай форме; каля поясу кароткія дэсантныя аўтаматы. Што ёсьць сілаў кідаемся напрасткі праз клюмбу, далей, у прысады, за рог цэнтральнага корпусу і ўзмываем у паветра.

— Лякатар фіксуе толькі ў палёце, але будынак экрануе. Усё ж вышэй даху падымацца ня варта. У іх ужо ёсьць стынгеры. Ціха!..

З-за вугла выскокваюць тыя, у цёмных акулярах.

— Где они?

Да зямлі мэтраў сем, але нас пакуль прыкрывае таўшчэзны ствол каштана. Пакуль, бо пагоня раптам спынілася і чуйна азіраецца навокал.



— Вот!

Мы зрываемся зь месца. Каляровыя трасэры ўспорваюць навакольле. Ляцяць трэскі, сьсечанае веццё сыплецца на асфальт. Вугал, паварот, нырэц у выгбу, яшчэ раз паварот — і мы па-за дасягальнасьцю АКМаў. Можна перавесьці дух.

— Што адбываецца? Чаму — я нічога не разумею — хто ты?..

— Хочаш выпіць?

Бурштынавая вадкасьць з пляскатай біклажкі прыемна апякае язык і нёба, тонкі водар запаўняе ўсяго мяне. Робіцца цёпла.

— І я глыну.

Біклажка перакульваецца. Край вока фіксуе рух над суседнім домам.

— Ниже, бери прицел, — пошел, не уйдет сука, я их пачками сбиваю! Раньше уходили, а теперь нет. У их угол крыла не тот. Не могут сделать петлю, тут мы его и достанем!

Над дахам праз дарогу раптам успыхвае шаравая маланка: у полымі, што расьце ва ўсе бакі, як у нэгатыве прарэзваецца контур жахлівай і безабароннай чалавечай птушкі, якая абвугліваецца і чарнее, толькі вочы выпраменьваюцьневераголнай сілы сьвятло.

— Прастола зьбілі...

— Каго?

— Ну, гэта накшталт генэрала ці палкоўніка па-вашаму... Супраць стынгераў яны амаль безабаронныя. У іх уласная тэмпэратура вышэй кропкі застываньня золата. Інфрачырвоныя аналізатары на стынгерах бяруць іх намёртва.

Пераможныя крыкі і радасна-нэрвовая лаянка напаўняюць прастору. Уся група тых, у акулярах, бяжыць да месца ўспышкі. Мой спадарожнік цягне мяне за сабой да шахты ліфта. Мы прычыняем за сабой дзьверкі і, напалову сагнутыя, перабіраемся на другі бок гарышча. Спыняемся каля вэнтыляцыйнага люка. Адсюль відаць амаль уся вуліца і суседнія дахі.

— Трэба перачакаць. Тут зараз будзе зашмат народу, рухацца небясьпечна.

— Паслухай, гэты, палкоўнік — ён хто?

— Усё войска падзеленае на тры колы: малодшыя весьнікі —анёлы, арханёлы і пачаткі, потым старэйшыя — сілы, годнасьці і цнатлівасьці, а затым вышэйшае кола — прастолы, херувімы і сэрафімы.

— Войска? І анёл можа стаць сэрафімам?

Канфармізм

# Дзяржаўная прэмія



Алесь
Аркуш

У падземным пераходзе пад плошчай Перамогі сустрэў Зімоўскага. Галоўны палітаглядальнік рэжыму йшоў, не падымаючы вочы на мінакоў. Не пазайздросьціш «дзядзьку». За ягоныя журналісцкія посьпехі аўтографаў прасіць ня будуць, а могуць іх толькі даваць.

Увогуле варта падзівіцца таму, што на слуганьне ўсенароднаабранаму з творчай інтэлігенцыі пайшлі адзінкі. Магчыма яшчэ ня ўсе атрымалі запрашэньне і галоўныя рэкруты наперадзе. Аднак, мне здаецца, што цягнік ужо сыйшоў. Сын і бацька Савіцкія, сын і бацька Гасьцюхіны, Пашкоў, Азаронак і яшчэ нехта так і застануцца ў сваёй невялікай, але вельмі «паважнай» кампаніі. Яны самі будуць ствараць «нятленкі», самі вылучаць іх на прэміі і самі ж гэтыя прэміі атрымліваць. Канвэер ужо сканструяваны. Арыентыры вызначаны. Прэміі падзелены да 2000 году.

Ад гэтага постсавецкая творчая інтэлігенцыя яшчэ ў большай разгубленасьці. Што рабіць? Бегчы да Замяталіна і пытацца пра вакансіі ў штаце прэзыдэнцкіх культработнікаў? Сорамна ды й небясьпечна прадаваць душу д'яблу. Ісьці ў БНФ і адстойваць правы беларускай культуры? За гэта можна «дэмакратызатара» паспытаць, а калі добра пашанцуе – тыдзень-другі правесьці на нарах. Няпростая дылема.

А прэзыдэнт не перастае выдаваць для гэтай катэгорыі не свайго электарату сюрпрызы. Нядаўна «чэсна» выказаўся адносна беларускай кнігі. Маяўляў, хопіць займацца разбазарваньнем народных грошаў, усё адно бел. кнігі пыляцца па кнігарнях пакуль іх ня сьпісваюць у макулатуру. Натуральна, чарговая ініцыятыва прэзыдэнта знойдзе падтрымку ў народа. Колькі пэнсіянэраў ня могуць атрымаць у час свае пэнсіі, а гэтыя нахабнікі яшчэ «чалабітныя» дасылаюць з просьбаю павысіць ім ганарары! (Нядаўна я вяртаўся ў Полацак у агульным вагоне, дык наслухаўся і пра парлямэнт, дэпутаты якога толькі гойсаюць па замежжах, і пра дэпутата Ганчара, які, «зладзюга», не падпарадкоўваецца міліцыі і невядома куды езьдзіць з жанчынамі па начах.) Такім чынам, пытаньне пра беларускую кнігу відавочна «прахадное» і яго можна жалезна выносіць на рэфэрэндум, а зэканомленыя грошы пусьціць на чарговы кінафэст «Залаты Віцязь». Мудрае дзяржаўнае рашэньне.

Ідэалёгія люмпэна робіцца дзяржаўнай. Галоўная задача Лукашэнкі – як мага шырэй люмпэнізаваць беларускі народ і тады сама сабой зьнікне праблема ўтрыманьня ўлады. Пад нож павінна пайсьці і «кляса» творчай інтэлігенцыі. Я

